№ 100 Ausgabe B.

# ГОМАН

Цэна с перэсылкай і дастаукай да хаты:

на 1 год—4 м. 80 фэн., на ½ году—2 м. 40 ф., на 3 месяцы—1 м. 20 ф., на 1 мес.—40 фэн.

Беларуская Віленская часопісь

выходзіць два разы у тыдзень: у аўторкі і пятніцы.

Адрэс рэдакціі: Вільня, Завальная 7.
Адрэс адміністраціі і экспэдыціі:
М. Стэфанская 23.

Цэна абвестак:

на 4-ай старане за радок дробнымі літэрамі—25 фэніг.; дробные абвесткі—па 5 фэн за слова. Абвесткі аб сьмерці—60 фэн. за лінейку дробн. друкам.

№ 100 (192). Год II. Вільня, 14 сьнежня 1917 г. Цэна 5 фэн. (3 кап.).

## ОФІЦЫАЛЬНАЕ АПАВЕШЧЭНЬНЕ.

**13.XII. Згодне з умовай, сягоньня на фронці фэльдмаршалка Леопольда Баварскаго пачынаюцца перэгаворы аб замірэньні, якое павінно замяніць цяперашні перарыў ваенных чыннасьцей**

### 13 сьнежня.

Заходні тэатр:

*Фронт Рупрэхта Баварскаго*: Ад Діксмуйдэна да Ліс і на поўдні ад Скарп момэнтамі жывейшая баевая чыннасць. На усходзі ад Бількур нашы войскі ўзялі у палон 6 афіцэраў і 84 салдатаў.

**Між Мэврі Вандуйль вострые ужо учора артылерыйскіе бітвы сягоньня раніцай ешчэ узмацаваліся.**

На поўначы ад С. Кантэн агонь гэтак сама крапчэў.

---

ПЕЦЯРБУРГ. (П.Т.А.). На кангрэссе партыі социал-рэволюцыонераў аканчацельна аддзялілося левае крыло ад праваго.

БЭРЛІН. (В.Т.Б). Ваенные выдаткі Італіі 30 верасьня даходзілі безмала 26 мільярдаў лір. Цяпер яны узрасьлі да 30 мільярдаў, і гэтак гасударственые даўгі Італіі, каторых было ў пачатку вайны 15 мільярдаў, узрасьлі да 45 мільярдаў а нацыональнае меньне Італіі ў найлепшым здарэньні ацэніваецца на 100 мільярдаў.

ПАРЫЖ. Камера прыняла гэткіе запросы:

1) аб тайных умовах саюзьніцкіх урадаў бяз ведама францускаго парляманту;

2) аб палітыцэ францускаго ураду у адносінах да Расеі;

3) аб палажэньні Франціі с прычыны развалу расейскаго фронту;

4) аб помачы, якую Францiя акажэ Расеі, каб апошняя ізноў прылучылася да саюзьнікоў.

РОТТЭРДАМ. «Times» дамагаецца падробнаго досьледу прычын разгрому англічан на заходнім фронці. Газэта вінаваціць глаўнакамандуючаго Гэга, кажучы, што ён рабіў пратэкцію сваім знаёмым служачым.

ЛОНДОН. **Ніжняя палата.** Бонар Лоў між іншым сказаў:

Пасьля міра прамышленасьці ўсіх старон будзе цяжка здаволіць свае патрэбы сырых матэр'ялаў;—ніхай жэ ворагі нашы памятаюць, што, чым даўжэй будзе трываць вайна, тым менш сыр'я астанецца дзеля раздзелу, асабліва затым, што саюзьнікі перш за ўсё здаволяць свае патрэбы.

ЛОНДОН. **Ніжняя Палата.** Пры жаданьні новаго ваеннаго крэдыту на 590 мільёнаў фунтаў стэрлінгоў Бонар Лоў заявіў, што ўсе крэдыты за гэты год разам даходзяць 2 450 мільёнаў фунтаў стэрлінгоў. За апошніе два месяцы дзенные выдаткі дазодзілі 6.794.000 фунт, стэрл. і на 1.393.000 ф. ст. вялікшые за спадзеваные выдаткі.

ЛОНДОН. «Daily Expr.» у доўгай стацьці звертае увагу Ллойда Джорджа на узрост небаспечнасьці. Газэта предлагае Ллойду Джорджу назначыць новые выбары, каб атрымаць ад народу паўнамоччэ вясьці вайну да пабеднаго канца. Есць небаспека, што пры новым галасаваньні габінэт Ллойда Джорджа выйдзе у адстаўку і будзе заменен габінэтам Асквіта.

МАДРЫД. С прычыны адмовы ураду назначыць бурмістроў у вялікшые месты местовые рады самі павыбіралі сваіх бурмістроў. У Барцэлёне выбран галава радыкалаў, Роша; выбар яго зрабіў вялікае уражэньне на палітычные кругі. Баяцца новай барацьбы між монархістамі і ворагамі іх. Народ адносіцца да міністэрства непрыхільна.

БЭРЛІН. (В.Т.Б.). Адна з нашых падводных лодак ізноў затапіла каля Англіі 35.000 тонн.

---

## Перэтрываем.

У гэты пераходны час, калі важыцца справа вайны, ці міра, а разам с тым і справа будучыны нашаго краю і народу беларускаго,—німа дня, каб не узнімаліся нет ведама скуль самые рознародные чуткі і гутаркі, то радосные, то ізноў сумные. Гэтые гутаркі і чуткі — у большай часьці зусім пустые і непадобные да веры — найлепей паказваюць, як горача народ перэжывае гэты гісторычны момэнт.

Ды гэта—зразумелая рэч. Бо ад таго, як уложацца варункі нашаго далейшаго быту, залежыць увесь ход нашаго жыцьця. Во тая перастройка, якая адбываецца сягоньня, мо' ўжо не паўторыцца на доўгіе гады...

Справа міра, справа будучыны нашаго краю — не такіе простые, як мо' каму здаецца. Тут зыходяцца экономічные, палітычные і стратэгічные інтэрэсы абедзьвых ваюючых старон, ды рознародные інтэрэсы чысьленых груп і кірункаў тутэйшаго грамадзянства. I калі-б апошніе ўдалося пагодзіць на грунці здаровай Краёвай палітычнай ідэі, дык першые не залежаць ад грамадзянства нашаго краю і не канечне пойдуць насустрэч нашым заданьням.

Німа слоў: ад формы таго гасударственаго ладу, які ў нас запануе, залежыць жыцьцё і будучына жывучых у ім народаў. Але граніцы і формы гасударств—гэта рэч зменная; нязменнымі і вечнымі астаюцца жывые народы.

Вось, раздзелены ваенным фронтам беларускі народ, каторы выявіў сваю жыцьцёвую сілу і тут, і пад Расеей, належыць да такіх жывых народаў, каторых ніхто і нішто знішчыць не здалее. I гэта сьвядомасць у сучасны пераходны час павінна даць нам тую ўнутрэную моц і спакой, якіе асабліва патрэбны цяпер, калі рознародные чуткі і гутаркі, аб правільнасьці каторых трудна судзіць, лёгка могуць звясьці з дарогі людзей палахліваго серца і малой веры. Народ наш у найцяжэйшых варунках, у найстрашнейшай няволі перэтрываў сталецьця і ізноў паўстаў да жыцьця. I, у гэты гісторычны момэнт напружыць свае сілы, каб дайсьці спаўненьня свайго палітычнаго ідэалу, і ён і далей будзе жыць і здабудзе сабе волю, і долю, і шчасьце!

---

## Ці Сенчыкоўскі быў беларусам?

Біограф Сэнчыкоўскаго, А. Жыркевіч, повен гістэрычнаго „захвату для свайго „героя", завідуе ён, каб, барані Божэ, якая іншая нація не заманула палічыць „атца Фердінанда" за свайго. Урэшці нічога ў гэтым дзіўнаго: бо аб гонар называцца бацькаўшчынай Гомэра старалося аж сем грэцкіх мест... З другога боку, саўсім не дзіўно нам, што палякі дагэтуль не выказываюць найменшай ахвоты прызнацца, што род Сэнчыкоўскіх, каторы, хоць калісь быў „грэцкаго абраду", а значэ паходжэньня рускаго, аднак атрымаў шляхэцтво, гэрб, новае найменьне, мову, асьвету, культуру і іншае дабро з гойнай польскай рукі, дык палякам найслушней павінен быць названы.

Гісторычным протоплястам гэтаго роду ёсць нейкі Пётр Сэнк, харужы за Зыгмонта III. У пачатку XVII веку адважна біўся ён са швэдамі і паў на полю бітвы, прычым плахту заўзята бароненай харугві знайшлі у яго пад адзеньнем. За гэты геройскі чын Сэнк быў нобілітаваны — атрымаў дзедзічнае шляхоцтво. З гэтаго часу род гэты меў печатавацца «„Ястрабцом"», як падаюць родаводы. У скорасьці с Сэнка стаўся Сэнчыкоўскі,—трэйці ужо этап у пастуненным польшчэньні роду, што, калі хочэм верыць самому Сэнчыкоўскаму, на пачатку насіў найменьне „Сук". Гэтак следам іншых родоў, Сэнчыкоўскіе польшчыліся, пакуль спольшчыліся безмала саўсім. Дык калыска апостала расэйскай мовы стаяла ужо у польскім старашляхоцкім доме п. Эўстахаго Сэнчыкоўскаго, натойчас адміністратара ўсіх маетнасьцей новагрудзкаго маршалка Кодылтоўскаго. Акуратнасць вымагае сказаць, што матка Сэнчыкоўскаго была дачкой уніяцкаго пароха Конаховіча. Аднача маем рацію сумневацца, ці рускасць кудзелі была шмат глыбейшай, як рускасць меча, бо агульна ведама, што і найбольш да уніі прывязанае духавенство, і тое, што яе так ганебна здрадзіло, перад крывавым яе змеркам на Беларусі, было немаль ў суцэль спольшчэнае.

Бацька Сэнчыкоўскаго хрысціў сваіх сыноў: адных у касьцелі, другіх у цэркві... Дзеля гэтаго ведаем аб прэдстаўніках роду Сэнчыкоўскіх, належачых да лацінскаго абраду. Іх магілы ёсць на Росе у Вільні, а найменьне жывых чыталі мы часам на гранках часопісей польскіх. Аднак ніводзін з гэтых патомкаў не выказываў і найменшай ахвоты зазначэньня даўнай рускасьці свайго роду, наадварот уважалі сябе і уважаюць за радавітых палякоў. Гаворучы а Сэнчыкоўскіх, як аб родзе, маем затым справу з родам саўсім **польскім, паводле тэрміналёгіі тутэйшай прэссы**, тэрміналёгіі скваплі-

КОПЭНГАГА. Украінская рада перэвагай 29 галасоў проці 8 выказалася за тойчасное замірэньне.

АПАРАНДА. Новы грамадзкі урад Фінляндзіі пад кіраўніцтвам Свінхувуда апавесьціў незалежнасць Фінляндзіі. Гэта, здаецца, будзе найбольш дэмократычная рэспубліка на сьвеці. Фінляндзія спадзяецца, што дзержавы прызнаюць яе незалежнасць.

ПЕЦЯРБУРГ. (П.Т.А.). Весткі Гаваса, Рейтэра і карэспандантаў саюзьніцкіх газэт аб аддзяленьні Сібіру і прызнаньні там пара — зусім нязгодзівы с праўдай.

Каўказ знаходзіцца ў руках глаўнай рады раб. і салд. Глаўны работніцкі цэнтр і пераважная часьць гарнізонаў стаяць за большэвікоў.

ПЕЦЯРБУРГ. 16 лістапада ў міністэрство заграніčных спраў прышла бульля Папежа аб назначэньні віленскаго біскупа барона Эдварда Роппа арцыбіскупам магілёўскім і мітрапалітам усіх каталіцкіх касьцёлаў Расеі.

Суфраган магілёўскі, кс. біскуп Цепляк, назначан за біскупа адбудованай мінскай дыэцэзіі.

Весновая рэволюцыя зняла з біскупа Роппа путы, узложаные на яго ў сваім часе царскім правіцельствам, і дала яму магчымасць прыняць выдатнае учасьце ў працах так-званай лікьвідацыйнай камісіі. Апрацованы ім праект адбудовы безпраўна скасаваных мінскай і каменецкай дыэцэзій быў прынят тымчасовым урадам. Есць надзея, што назначэньне біскупа Роппа на каталіцкую мэтрополію для ўсяе Расеі ў поўнай меры споўніць усе спадзеваньня каталіцкаго сьвету, якіе ў гэты крытычны момэнт звязываюцца з асобай, заняўшай гэтае важнае становішчэ. («Germania», № 567 с 7.XII 1917).

## Расея і Нямеччына.

БЭРЛІН. (В.Т.Б.) Аб перагаворах аб замірэньні на усходнім фронці апавешчаюць:

У глаўнай кватэры глаўнакамандуючаго на ўсходзі пры разглядзе паўнамочный выявілося, што абедзьве староны упаўнамочэны вясьці перагаворы толькі аб замірэньні, а не аб міры. Расейскіе дэпутаты прэдлажылі зрабіць замірэньне для ўсіх армій на ўсіх фронтах. На гэта мы не маглі прыстаць, бо прэдстаўнікоў саюзьнікоў Расеі не было, а расейскіе дэпутаты не былі упаўнамочэны гаварыць ад імі саюзьнікоў. Тады, на моцы агульный згоды, пачалася гутарка аб замірэньні між намі і нашымі саюзьнікамі — з аднаго боку і расейскімі арміямі — з другога.

На другім заседаньні расейскіе дэпутаты падалі свой праект замірэньня. Іх дамаганьня часьцю былі зусім неадпаведны да іх ваенного палажэньня. Напрыклад, яны жадалі ачысткі астравоў Рыжскай затокі, не прэдлагаючы самі ў якімколечы мейсцы узяць назад сваё войска. Далей яны вымагалі ад нас, каб праз ўвесь час 6-месячнаго замірэньня нашы войскі на ўсходнім фронці асталіся ў акопах. Яны не згаджаліся нават на тое, каб мы ўзялі назад сваіх салдатаў у больш выгадные кватэры. Вядома, мы на гэтые варункі прыстаць не маглі. Разглядаючы паадзінокіе пункты выяснілося, што апрыч аднаго пункта, ва ўсіх можна дайсьці угоды. Пункт, на каторы нельга дайсьці угоды, гэта ачыстка астравоў Рыжскай затокі ад нашых войск, аб чым мы, ведома, не маглі гутарыць.

Пасьля расейскіе дэпутаты заявілі, што яны павінны атрымаць с Пецярбурга новые інструкціі. Угода аб стрыманьні на 10 дзён баевой чыннасьці — гэта добры знак дзеля будучыны.

## З усяго сьвету.

ЖЭНЕВА. Аб пачатку рэволюціі ў Португаліі наказуюць:

5 сьнежня вучні ваенной школы ў Ліссабоне злучыліся з другімі нездаволеннымі элементамі ў гарах над портам і местам. Каманду над імі прыняў на сябе падпалкоўнік Паэс, бышый пасол у Бэрліне. Яны пачалі абстрэліваць гасьцініцу «Паляст», дзе жылі ангтліцкі і гішпанскі пасланы іншые дыплёматы. Да іх далучыліся іншые войскі. Цяпер Паэс мае у сваіх руках ваенную дыктатуру. Броненосец «Wasco de Gama» ў часе бітвы вельмі пацярпеў і затануў у мелкім мейсцы.

## ТЭЛЕГРАМЫ.

### Нямецкіе апавешчэньня:

11. XII. **Заходні тэатр:**

*Фронт Рупрэхта Баварскаго:* У Фляндрыі і ад Скарп да Соммы—ажыўленые артылерыйскіе бітвы.

*Фронт нямецкаго Насьледніка:* На усім фронці ажыўленая артылерыйская бітва. Пры Краонн і ў розных іншых мейсцах дружыны разведчыкоў узялі палонных.

---

Вострые бітвы на паветры, асабліва на французскім фронці. Нашы ворагі утрацілі 11 самалётаў і 1 прывязны лятучы шар.

**На усходнім театры і македонскім фронці**—без перамен.

Італьянскі тэатр.

Паабапол Брэнты і ўждоўж ніжняго цячэньня П'явэ — жывая артылерыйская чыннасць

---

12. XII. **На заходнім, ўсходнім і македонскім фронці**—без вялікшых бітв.

Італьянскі тэатр:

На паадзінокіх адрэзках між Брэнтай і П'явэ—мейсцовые бітвы, ў каторых мы ўзялі палонных.

---

У лістападзі ворагі утрацілі 22 прывязные лятучые шары і 205 самалётаў, у тым ліку 85 за нашым фронтам. Мы утрацілі 60 самалётаў і 2 лятучые шары.

---

## КАЛЯ ВАЙНЫ.

ЛОНДОН (Раўтэр). Ніжняя палата. Бонар Лёў заявіў, што Ерусалім паддаўся англічанам.

БЭРЛІН (В.Т.Б.) Дабравольная ачыстка Ерусаліма адбылася с прычыны жаданьня не дапусьціць крывавых бітв у сьвятым для ўсіх народаў мейсцы. Стратэгічнаго значэньня гэтае места не мае. Нашы саюзьнікі ведаюць, што мы стаім на іх старане і што лёс Ерузаліма не разв зав сагоняшнай ўдачай англічан

БЭРЛІН (В.Т.Б.) Адзін з нашых марскіх самалётаў 11 сьнежня перад абедам зніштожыў англіцкі лятучы карабель С 27, каторы, палючыся, зваліўся ў мора.

БЭРЛІН (В.Т.Б.). Адна з нашых падводных лодак у Атлянтыцкім акіяне затапіла 12.000 тонн.

ВЕНА. У ночы з 9 на 10 сьнежня варожымі торпэдамі затоплен наш стары броненосец „Wien". Блізка ўсе людзі выратаваны.

БЭРЛІН. (В.Т.Б.). Адна з нашых падводных лодак затапіла у Атлянтыцкім акіяне тры параходы і адзін парусьнік.

Друкавана у друкарні М. Кухты Выдавецтва «Гоман» Рэдактар Язэп Салавей.